ВЫСТУПІЎ МІНІСТР

## НА НАРАДЗЕ Ў МАГАТЭ

На праходзячай у Вене нарадзе кансультатыўнай групы МАГАТЭ па прынцыпах радыяцыйнай аховы выступіў міністр аховы здароўя БССР У. Улашчык. Ён спыніўся на медыцынскіх аспектах вынікаў радыяцыйнага апрамянення насельніцтва рэспублікі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Міністр падкрэсліў, што праведзеныя прафілактычныя і дэзактывацыйныя мерапрыемствы дазволілі істотна знізіць дозы апрамянення і пазбегнуць прамянёвых пашкоджанняў сярод насельніцтва. Разам з тым ён звярнуў увагу ўдзельнікаў нарады на трывожныя тэндэнцыі ў стане здароўя жыхароў рэспублікі: адзначаны рост захворванняў саматычнымі хваробамі, пагоршыліся некаторыя медыка-генетычныя паказчыкі, часцей выяўляюцца паталагічныя змяненні ў шчытападобнай залозе ў тых, хто жыве ў забруджаных раёнах, асабліва ў дзяцей. Нарастаюць негатыўныя сацыяльна-псіхалагічныя працэсы сярод насельніцтва раёнаў, што пацярпелі ад аварыі.

Падкрэсліўшы неабходнасць расшырэння міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне бяспечнага развіцця ядзернай энергетыкі і аховы здароўя людзей, У. Улашчык выказаў надзею на дапамогу сусветнага супольніцтва ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі.

НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

## У КАМІСІІ БССР ПА СПРАВАХ ЮНЕСКО

Пра вынікі 25-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО, якая адбылася нядаўна ў Парыжы, расказаў на чарговым пасяджэнні камісіі міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, які ўзначальваў дэлегацыю рэспублікі. Галоўнай падзеяй сесіі, адзначыў ён, стала прыняцце перспектыўнага плана дзейнасці ЮНЕСКО да сярэдзіны 90-х гадоў і яе рабочай праграмы на бліжэйшыя два гады. Упершыню за ўсю 35-гадовую гісторыю нашага ўдзелу ў ЮНЕСКО ўдалося дабіцца выбрання БССР у выбарны кіруючы орган гэтай арганізацыі — Выканаўчы савет. Членам Выканаўчага савета ад Беларусі стаў член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР А. Лабанок.

Дэлегацыя рэспублікі сустрэлася з генеральным дырэктарам ЮНЕСКО Ф. Маёрам. У гутарцы былі, у прыватнасці, абмеркаваны магчымыя шляхі супрацоўніцтва рэспублікі з ЮНЕСКО ў справе ліквідацыі вынікаў аварыі ў Чарнобылі.

10 краін з розных рэгіёнаў свету сталі сааўтарамі прынятай канферэнцыяй рэзалюцыі аб святкаванні 500-годдзя з дня нараджэння беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, вучонага і мысліцеля Ф. Скарыны. Прадугледжваецца ўдзел у святкаванні юбілею дзяржаў — членаў ЮНЕСКО, а да генеральнага дырэктара ЮНЕСКО выказана просьба арганізаваць памятную цырымонію ў штаб-кватэры.

На пасяджэнні камісіі абмеркаваны канкрэтныя пытанні, якія зыходзяць з вынікаў канферэнцыі, і прыняты адпаведныя пастановы.

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## У ЛЮСТРЫ САЦЫЯЛОГІІ

Супрацоўнікі Рэспубліканскага цэнтра сацыялагічных даследаванняў АН БССР правялі апытанне з мэтай даведацца ацэнку людзей сацыяльна-палітычнай абстаноўкі ў рэспубліцы. Аналіз паказвае, што пераважная большасць апытаных (звыш 77 працэнтаў) ацэньвае сучасную сітуацыю як напружаную, са шматлікімі цяжкасцямі і нявырашанымі праблемамі. Пры гэтым значная частка з іх настроена аптымістычна: 39,8 працэнта лічаць, што абстаноўка напружаная, але людзі спадзяюцца на лепшыя часы, 37,8 працэнта пераканаsuccessfully, што цяжкасцей шмат, аднак народ да іх прывык, таму сацыяльных катаклізмаў чакаць не трэба. 3,7 працэнта апытаных мяркуюць, што сітуацыя нармальная, 7,1 — што яна вельмі напружаная, кожны шосты — што абстаноўка супярэчлівая і сітуацыя можа змяніцца.

Такім чынам, калі не браць пад увагу крайнія пазіцыі, як вельмі аптымістычныя, так і надта песімістычныя, то сацыяльна-палітычная абстаноўка ў рэспубліцы большасцю насельніцтва характарызуецца як складаная і супярэчлівая, але якая дазваляе разлічваць на змены да лепшага.

На пытанне — каго грамадская думка лічыць адказным за існуючае становішча спраў, атрыманыя даныя такія: прыкладна трэць выбаршчыкаў выказвае папрокі кіраўніцтву краіны (Саўміну, Вярхоўнаму Савету), чвэрць — кіраўніцтву рэспублікі. Але, на думку вялікай колькасці апытаных, гарадское і раённае звяно з'яўляецца зараз самым слабым месцам у арганізатарскай, палітычнай і ідэалагічнай дзейнасці. Больш трэці крытычных заўваг выказваецца ў адрас мясцовых органаў, з іх прыкладна 25 працэнтаў у адрас савецкіх і 13 працэнтаў — партыйных. Большасць насельніцтва рэспублікі (56 працэнтаў апытаных) перакананы, што партыя застаецца галоўнай палітычнай сілай, гарантам перабудовы.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## «БЭТА» АБАРОНІЦЬ АД РАДЫЕНУКЛІДАЎ

Электрастанцыі працуюць у найбольш эканамічным рэжыме, калі спажыванне энергіі размяркоўваецца на працягу сутак раўнамерна. Менавіта гэтую акалічнасць улічылі спецыялісты інстытутаў цепла- і масаабмену АН БССР і «Белсельбудпраект», якія прапанавалі выкарыстаць накопленае ноччу паліва для абагрэву памяшканняў днём. Распрацаваны імі акумулятар цяпла «Бэта» — своеасаблівы тэрмас, які ў цёмны час сутак ацяпляе кватэру і адначасова награецца ад электрасеткі да 500 градусаў, здольны затым 17 гадзін паступова аддаваць цяпло. Тэмпература яго радыятара падтрымліваецца на ўзроўні 60 градусаў. Эканомна расходаваць цяпло ў акумулятары дапамагаюць арыгінальныя канструкцыі — цеплавыя трубы і масіўныя блокі з вогнетрывалай керамікі.

Навінка, якая паспяхова прайшла папярэднія выпрабаванні, прызначана для аснашчэння праектуемых пасёлкаў. Разлікі падказваюць, што выкарыстанне электраэнергіі для ацяплення дамоў, абсталяваных акумулятарамі «Бэта», акажацца значна больш выгадным, чым прымяненне традыцыйнай пары.

Кіраваць такой ацяпляльнай сістэмай павінна аўтаматыка, аднак гаспадары кватэры будуць мець магчымасць і самі адрэгуляваць паступленне цяпла. Пры неабходнасці дадаткова можна выкарыстоўваць і другі эканамічны абагравальнік на цеплавых трубах, таксама распрацаваны вучонымі сумесна з цэнтрам навукова-тэхнічнай творчасці моладзі навукова-вытворчага аб'яднання парашковай металургіі.

Па задуме распрацоўшчыкаў, прымяненне акумулятараў цяпла апраўдае сябе ў першую чаргу ў раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У такім выпадку адпадае неабходнасць у выкарыстанні мясцовага паліва, якое становіцца дадатковай крыніцай радыенукліднага забруджвання.

ПРАБЛЕМЫ ВЫТВОРЧАСЦІ





На праектную магутнасць выйшла ў намечаныя тэрміны другая чарга Беларускага металургічнага завода. Цяпер прадпрыемства зможа пастаўляць штогод 25 тысяч тон металакорду васьмі канструкцый і 10 тысяч тон бартавога міліметровага дроту. Але, на жаль, працуе пакуль завод не на поўную сілу, а робіць толькі заказаныя канструкцыі: ва ўмовах гасразліку не выгадна забіваць склады нікому не патрэбнай гатовай прадукцыяй. Беларускі корд аказаўся настолькі якасным, што лепшыя яго тры канструкцыі з васьмі асвоеных шыннікі краіны проста не могуць выкарыстаць з-за нізкіх тэхнічных магчымасцей сваіх прадпрыемстваў. Гэта прымушае беларускіх металургаў шукаць выхад на міжнародны рынак, таму што іх прадукцыя па ўсіх фізіка-механічных паказчыках адпавядае лепшым сусветным узорам.

НА ЗДЫМКАХ: у цэху, дзе ўстаноўлены аўтаматычныя лініі звівання латуніраванага дроту; за работай аўтаматычных ліній пракатнага стану назірае аператар галоўнага пульта кіравання станам Віктар ЛАЎРЭНАЎ.

## Кірыла Трафімавіч МАЗУРАЎ



**19 снежня 1989 года на 76-м годзе жыцця абарвалася жыццё народнага дэпутата СССР, старшыні Усесаюзнага савета ветэранаў вайны і працы, персанальнага пенсіянера саюзнага значэння Кірылы Трафімавіча Мазурава.**

**У некралогу, падпісаным кіраўнікамі Савецкага ўрада і КПСС, гаворыцца:**

**К. Мазураў нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Рудня Гомельскай вобласці Беларускай ССР у сям'і селяніна. Працоўную дзейнасць пачаў у 1933 годзе дарожным тэхнікам. Служыў у Чырвонай Арміі. З 1939 года знаходзіўся на камсамольскай рабоце. Член КПСС з 1940 года.**

**З пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў саставе 21-й арміі Паўднёва-Заходняга фронта К. Мазураў удзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Быў палітруком роты, камандзірам батальёна, інструктарам палітаддзела арміі. Двойчы ранены. У 1942 годзе пасля вылячэння накіраваны ў тыл ворага, дзе праявіў сябе актыўным арганізатарам партызанскага руху ў Беларусі, быў сакратаром падпольнага ЦК ЛКСМБ. Пасля вызвалення рэспублікі працаваў другім, затым першым сакратаром ЦК камсамола Беларусі.**

**З 1947 года К. Мазураў знаходзіўся на партыйнай і дзяржаўнай рабоце. Выбіраўся першым сакратаром Мінскага гаркома, абкома партыі. З 1953 года працаваў Старшынёй Савета Міністраў БССР, з 1956 года — першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі. З 1965 года і да выхаду на пенсію ў 1978 годзе быў першым намеснікам старшыні Савета Міністраў СССР.**

**Будучы персанальным пенсіянерам саюзнага значэння, К. Мазураў працягваў актыўную грамадскую дзейнасць у саставе Савецкага камітэта ветэранаў вайны. У 1986 годзе быў выбраны старшынёй Усесаюзнага савета ветэранаў вайны і працы.**

**Савецкая дзяржава высока ацаніла заслугі К. Мазурава, прысвоіўшы яму званне Героя Сацыялістычнай Працы. Ён быў удастоены многіх баявых і працоўных узнагарод Радзімы.**

ПАДРЫХТОЎКА ДА ВЫБАРАЎ

## ПАМОЧНІК — САЦЫЯЛЬНЫ ПАШПАРТ

Добрым арыенцірам у вызначэнні тактыкі перадвыбарных праграм стануць для будучых прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты ў Вярхоўны Савет Беларускай ССР і мясцовыя органы ўлады сацыяльныя пашпарты кожнай выбарчай акругі Брэстчыны. Іх могуць атрымаць усе кандыдаты ў дэпутаты. З такіх пашпартаў яны атрымаюць інфармацыю пра насельніцтва, прадпрыемствы і аб'екты, размешчаныя на тэрыторыі акругі. Ёсць у пашпартах і звесткі пра санітарна-экалагічны стан, планы развіцця населеных пунктаў на бліжэйшую перспектыву. Спецыяльныя раздзелы прысвечаны шляхам вырашэння найбольш вострых мясцовых праблем. Для Брэстчыны гэта забеспячэнне насельніцтва жыллём, насычэнне рынку таварамі і прадуктамі харчавання, будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнай сферы.

Такія звесткі — не адзіная «зброя», якая прапануецца кандыдатам у іх перадвыбарнай барацьбе. У ходзе яе яны не толькі правядуць традыцыйныя сустрэчы з выбаршчыкамі, але і наведаюць многіх з іх, што называецца, дома. Адрасы тых, з кім трэба сустрэцца ў першую чаргу, таксама ўказаны ў пашпарце. Гэта — мнагадзетныя сем'і і інваліды, якія маюць патрэбу ў жыллі і дзіцячых садах, «цяжкія» падлеткі».

## *ЯК СТАЛІЧНАЯ ШКОЛА СТАЛА БЕЛАРУСКАЙ*

# ПРАЗ СУМНЕННІ ДА АДРАДЖЭННЯ

Яшчэ некалькі гадоў назад немагчыма было ўявіць, каб у Мінску адкрылася беларускамоўная школа. Менавіта так гаварылі на ўрачыстай лінейцы, прысвечанай пачатку сёлетняга навучальнага года, педагогі і вучні 136-й школы сталіцы. Але прайшоў вельмі кароткі час, і перабудова прынесла тое, што ўчора здавалася неверагодным.

Цяпер усе першакласнікі школы, пераступаючы яе парог, чуюць прывітанні і настаўнікаў, і вучняў старшых класаў на роднай, беларускай мове. Для іх падрыхтаваны светлыя ўтульныя класы, ёсць цікавыя падручнікі, разнастайныя наглядныя дапаможнікі, — усё для таго, каб дзеці вучыліся з захапленнем.

Працэс адраджэння нацыянальнай мовы і культуры ў рэспубліцы нарэшце закрануў і нашу народную адукацыю. У Мінску, апрача 136-й, сем сярэдніх школ рэарганізаваны ў школы з беларускай мовай навучання. Апрача гэтага, як паведамілі ва ўпраўленні народнай адукацыі Мінгарвыканкома, пачынаюць дзейнічаць каля сарака беларускамоўных класаў у школах усіх раёнаў сталіцы. Лічба як быццам і значная, калі ўлічыць, што яшчэ год-два назад беларускіх агульнаадукацыйных школ у сталіцы не было зусім. Але яна не можа задаволіць грамадскасць.

Спачатку для параўнання прапануем яшчэ дзве лічбы: 900 і 80. 900 — гэта колькасць усіх вучняў школы, і 80— колькасць дзяцей з трох першых і аднаго другога класаў, якія ўсе прадметы вывучаюць на роднай мове. Астатнія займаюцца па ранейшым раскладзе, гэта значыць з рускай мовай навучання.

— З вялікай цяжкасцю, — прызнаецца дырэктар школы, вопытны педагог В. Каткова, — мы набралі так мала вучняў, таму што сустрэлі супраціўленне бацькоў.

Дык у чым жа справа, чаго асцерагаюцца бацькі?

Настаўнікі ў сваім і іншых жылых мікрараёнах сярод бацькаў і маці распаўсюдзілі спецыяльную анкету, зайшлі ў кожную сям'ю, запрасілі на школьныя сходы. Высветлілася наступнае: многія бацькі-беларусы самі не ведаюць або забыліся родную мову і таму непакояцца, ці змогуць вывучыць яе іх дзеці. Узніклі сумненні ў мэтазгоднасці вывучэння: маўляў, дзе і калі спатрэбіцца беларуская мова, якую дзеці столькі гадоў будуць вывучаць у школе? І на ўсе гэтыя і іншыя пытанні неабходна было даць вычарпальныя адказы, пераканаць дарослых у мэтазгоднасці вывучэння беларускай мовы. На педсавеце настаўнікі вырашылі схіліць бацькоў на свой бок рэальным прыкладам, абудзіць у іх сэрцах і думках добрыя пачуцці да нацыянальнай культуры.

Гэта тым больш было важна, бо ў прыхільнікаў адкрыцця беларускамоўнай школы з'явіліся апаненты. Група бацькоў з дзецьмі (дванаццаць чалавек) у супрацьвагу настаўнікам пачала хадзіць па кватэрах і падбіваць іншых адмовіцца ад адкрыцця беларускамоўнай ш[illegible]. У розныя ўстановы па[illegible]лі лісты, у якіх настаўнікі абвінавачваліся ледзь ці не ў нацыяналізме і г. д. У такой сітуацыі педагогі рашылі: «Няхай суддзямі будуць самі вучні».

Лепшымі агітатарамі [illegible] беларускую мову, як выявілася, сталі трэцякласнікі настаўніцы Т. Смяглікавай. Год назад, пачынаючы са сваімі дзеткамі вывучаць курс беларускай пісьменнасці, Таццяна Іванаўна таксама прайшла праз нявер'е, сумненні, адкрытую апазіцыю бацькоў. Але яна так пранікнёна падышла да дзіцячай душы, так арганізавала вучэбны працэс, што ўжо праз месяц самі вучні прапанавалі:

—Давайце, Таццяна Іванаўна, усе прадметы вывучаць на беларускай мове.

І вось яе вучні сустрэліся з будучымі першакласнікамі, іх бацькамі на беларускім народным свяце. Выхаванцы Смяглікавай спявалі песні, вадзілі карагоды, жартавалі, запрашалі ў скокі недаверлівых старэйшых і цікаўных малых. Сваёй выхаванасцю, спрытам і ўменнем дзеці як бы разбурылі сцяну недаверу.

Чым так прывабілі бацькоў і будучых школьнікаў выхаванцы Смяглікавай? Сваёй адукаванасцю, дасведчанасцю, падцягнутасцю, артыстызмам. Бо займаюцца яны ў школе не толькі чытаннем і матэматыкай, але і харэаграфіяй, пластыкай і г. д. Значыць, і ўсе першыя беларускія класы трэба стварыць з тэатральна-мастацкім ухілам. З першых крокаў выхоўваць дзяцей прыгажосцю. На дапамогу прыйшоў Беларускі фонд культуры, Саюз мастакоў БССР. Яны спрыялі і ў вырашэнні матэрыяльна-тэхнічных праблем. У школу пайшла творчая інтэлігенцыя — пісьменнікі, мастакі, артысты. З іх удзелам правялі цікавыя вечары-сустрэчы. І вось вынік: школа стала беларускай.

**А. ШАГУН.**

## ГРАНІЦА СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ АДКРЫТАЙ

# «ЖАЛЕЗНАЯ ЗАСЛОНА» Ў СВЯТЛЕ ГАЛОСНАСЦІ

«Жалезная заслона» — сімвалічны стэрэатып былой закрытасці савецкага грамадства — працягвае дэманціравацца. Пра гэта сведчаць выступленні старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР В. Кручкова і начальніка Пагранічных войск КДБ СССР генерала арміі В. Матросава на чарговым пасяджэнні Камітэта па пытаннях абароны і дзяржаўнай бяспекі Вярхоўнага Савета СССР.

Пагранічныя войскі КДБ СССР, якія налічваюць крыху больш за 200 тысяч чалавек, выведзены з саставу Савецкіх Узброеных Сіл (дарэчы, і берагавая ахова ЗША не ўваходзіць у састаў Узброеных Сіл). У адпаведнасці з Законам аб дзяржаўнай граніцы СССР, прынятым яшчэ ў 1982 годзе, гэтым войскам даручана ахоўваць граніцы Савецкага Саюза. Іх агульная працягласць 62 тысячы кіламетраў, з іх 40 тысяч прыпадае на марскія рубяжы.

За гады перабудовы пагранічныя войскі скарацілі колькасць акруг у два разы, давёўшы іх да 10. Скарочаны цэнтральны апарат: ён складае 1,3 працэнта ў адносінах да войск. Што тычыцца колькасці генералаў, то іх налічваецца ўсяго каля 60. Паказчык да[illegible] сціплы ў параўнанні [illegible]роенымі сіламі.

Цяпер, як заявіў старшыня КДБ В. Кручкоў, распрацоўваецца новая канцэпцыя аховы дзяржаўных граніц. На яе распрацоўку пойдзе прыкладна год. [illegible]этая канцэпцыя павінна [illegible]строўваць узрослыя мі[illegible]ародныя абмены і гаспадарчую дзейнасць, якая разгортваецца ў прыгранічных раёнах на двухбаковай і шматбаковай аснове.

Якія функцыі выпадаюць сёння на долю савецкіх пагранічнікаў ва ўмовах перабудовы?

Па-ранейшаму асноўнай застаецца задача затрымання парушальнікаў граніцы. Ці многа іх? За папярэдні і няпоўны гэты год каля 3 400. Прычым 40 працэнтаў гэтых парушэнняў звязана з рабаўніцтвам нацыянальных багаццяў Савецкага Саюза — браканьерствам, незаконным промыслам у тэрытарыяльных водах і высакагорных раёнах. Асабліва многа парушэнняў граніц тэрытарыяльных вод японскімі прамысловымі суднамі ў раёне Паўднёвакурыльскай грады.

А якая накіраванасць патоку парушэнняў? 81 працэнт парушальнікаў накіроўваюцца на тэрыторыю Савецкага Саюза, астатнія — у процілеглым напрамку. Апошнюю катэгорыю складаюць, як правіла, злачынныя элементы, якія хаваюцца ад правасуддзя.

Якія ўчасткі граніцы з'яўляюцца найбольш неспакойнымі? Галоўным чынам, гэта граніца з Афганістанам, цераз якую спрабуюць перакінуць у Савецкі Саюз зброю, наркотыкі, валюту і дыверсантаў. Значна палепшылася становішча на граніцы з Нарвегіяй (нягледзячы на існуючыя спрэчныя пытанні на паўночным участку), Турцыяй, Іранам, Кітаем. Другая не менш важная задача — гэта ахова эканамічнай зоны. Яна складае 8,6 мільёна квадратных кіламетраў. Акрамя эканамічнай зоны, войскі КДБ кантралююць яшчэ і так званую пагранзону, якая займае плошчу 3,6 мільёна квадратных кіламетраў, прасціраючыся ў асобных раёнах да 600 кіламетраў ад граніцы. У ходзе перабудовы КДБ выказаў пажаданне скараціць гэтую зону ў 10 разоў. Аднак мясцовыя органы ўлады і насельніцтва ў многіх раёнах не згаджаюцца з гэтым рашэннем. Тлумачаць яны гэта тым, што ў пагранзонах жыццё спакайнейшае — менш браканьераў, больш парадку.

Пагранвойскі і экалогія. Пагранічнікі і тут аказваюць паслугу дзяржаве: яны самі сябе ўтрымліваюць у экалагічнай чысціні, дапамагаюць мясцовым уладам берагчы прыроду, асабліва на Поўначы, дзе яна вельмі ранімая, а таксама сігналізуюць аб экалагічных парушэннях. Дарэчы, чарнобыльскае воблака першымі засеклі пагранічнікі Заходняй пагранічнай акругі.

Ці ёсць у пагранвойсках праблемы? Зразумела, і нямала. Перш за ўсё гэта тэхнічная аснашчанасць, якая, на думку некаторых дэпутатаў, сур'ёзна адстае ад міжнародных стандартаў. Гэта і сацыяльная сфера жыцця пагранічнікаў, на паляпшэнне якой КДБ просіць Вярхоўны Савет субсідзіраваць 50 мільёнаў рублёў (для гэтых жа мэт Узброеным Сілам выдзяляецца 1,2 мільярда рублёў). Маюць патрэбу ў сур'ёзным пераабсталяванні кантрольна-прапускныя пункты на граніцах з улікам усёўзрастаючага міжнароднага абмену.

На многіх участках граніцы дротавыя загароды будуць дэманціравацца. Граніца перабудоўваецца. Яна яшчэ доўга застанецца рубяжом дзяржавы, але сёння яна становіцца больш адкрытай.

**Валерый ПАГРАБЕНКАЎ.**






**Набліжаецца Новы год, але выконваць ролю шчодрага Дзеда Мароза ў нас цяпер няпроста. З традыцыйным поўным мехам за плячыма акажацца толькі той, хто больш спрытны, мае вялікія «прабіўныя» здольнасці: разбалансаваны рынак не лічыцца са святамі, а таму прылаўкі, дзе павінны быць цукеркі, і перад Новым годам пустыя. Куды ж «пахаваліся» такія любімыя дзятвой «Мішкі на Поўначы», «Чырвоныя Шапачкі», «Вавёркі»!**

**...З першых жа крокаў па цукерачна-шакаладным цэху мінскай фабрыкі «Камунарка» пераконваешся, што і «Мішкі» не перавяліся, і «Вавёрачкі» саскокваюць з бясконцай стужкі канвеера, і «Кветкі палявыя» заманліва пахнуць. У вачах мільгаюць прыгожыя, у елачных шышках і навагодніх свечках, каробкі. Ды і лічбы сведчаць пра поўны парадак на «салодкай» вытворчасці.**

**— Паверце, мы поўнасцю падзяляем пачуцці пакупнікоў наконт дэфіцыту нашых вырабаў на прылаўках магазінаў, — гаворыць намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання Антаніна Ланкова. — Але, на жаль, мы не надзелены правамі гандлю, няма ў нас і ўласных фірменных магазінаў. Словам, мы гаспадары вытворчасці, але не прадукцыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: такія навагоднія наборы цукерак рыхтуюць на фабрыцы; у шакаладным цэху ідзе камплектацыя навагодніх падарункаў і шакаладных набораў да свята.**

**Фота У. ШУБЫ.**

У савецкім друку таксама з'явілася паведамленне Міністэрства абароны СССР, у якім прыводзіцца шэраг даных пра стан савецкіх Узброеных Сіл.

У сувязі з прыняццем Вярхоўным Саветам СССР Закона «Аб Дзяржаўным бюджэце СССР на 1990 год» Міністэрства абароны СССР паведамляе, што агульная сума расходаў на абарону ў 1990 годзе складзе 70 975,8 мільёна рублёў, гэта значыць на 6 318,4 мільёна рублёў (8,2 працэнта) менш, чым у 1989 годзе.

На сёння ва Узброеных Сілах СССР у сувязі з аргштатнымі мерапрыемствамі, аднабаковым скарачэннем і выкананнем Дагавору па РСМД адбыліся істотныя змяненні ў бок памяншэння іх колькасці, а таксама колькасці асноўных відаў узбраенняў у параўнанні з апублікаванымі раней данымі. Агульная колькасць Узброеных Сіл СССР на 1 студзеня 1990 года складзе 3 993 тысячы чалавек.

Прыводзяцца даныя пра колькасць стратэгічных ядзерных сродкаў СССР. Падкрэслена, што ўсяго зарадаў на стратэгічных носьбітах прыкладна 10 000.

Таксама друкуюцца звесткі пра колькасць асноўных відаў звычайных узбраенняў СССР. Баявыя самалёты франтавой авіяцыі ВВС, авіяцыі ППА і ВМФ — 8 207. Баявыя верталёты, у тым ліку і ВМФ, — 4 014. Пускавыя ўстаноўкі тактычных ракет — 1 723. Танкі, у тым ліку якія плаваюць (ПТ-76), — 63 900. Баявыя машыны пяхоты і бронетранспарцёры — 76 520. Рэактыўныя сістэмы залпавага агню, гарматы і мінамёты калібру 100 міліметраў і вышэй (у адпаведнасці з вызначэннем, якое разглядаецца на венскіх перагаворах па скарачэнню Узброеных Сіл і ўзбраенняў) — 66 880.

*НЕАФІЦЫЙНАЕ ІНТЭРВ'Ю З АФІЦЫЙНАЙ АСОБАЙ*

# КАНАДСКІЯ ДНІ «СВЯТА»

**Пры канцы года, у лістападзе, у Канадзе адбыліся Дні культуры Беларускай ССР. Падзея не такая ўжо і частая, калі ўлічыць, што да Канады сёлета такія ж Дні культуры адбыліся яшчэ ў Шры-Ланка і Мальдзіўскай рэспубліцы, у ГДР. Пра выступленні ансамбля «Свята» ў краіне кляновага ліста і сустрэчы з канадцамі гутарка з кіраўніком беларускай дэлегацыі, сакратаром Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Людмілай СЫРАЕГІНАЙ.**

Мы сядзім з Людмілай Мікалаеўнай у яе рабочым кабінеце і перабіраем фатаграфіі, прывезеныя з Канады, — памяць аб тых днях, калі ў Манрэалі, Квебек-сіці, Таронта, Ванкуверы і Вініпегу з розных сцэн гучала беларуская песня. Памяць аб шматлікіх сустрэчах з афіцыйнымі асобамі і проста грамадзянамі гэтай краіны, працаўнікамі, у тым ліку і з нашымі суайчыннікамі. Нязмушаныя позы — фатограф выхапіў нейкае імгненне, шчырыя, добразычлівыя ўсмешкі і незвычайная ўзрушанасць на ўсіх тварах. Каляровыя фатаграфіі — як каляровыя сны аб тым, што было...

— Людміла Мікалаеўна, якія вашы самыя моцныя ўражанні, прывезеныя з Дзён культуры Беларускай ССР у Канадзе?

— Мне здаецца, сустрэчы вось з гэтымі людзьмі (паказвае на фатаграфіі); так, менавіта гутаркі з канадцамі, калі і чалавек перад табой раскрываецца, і ты перад ім, калі мы разумеем адзін аднаго і бачым, наколькі падобныя ў нас праблемы і радасці.

— А пра што вы шкадуеце, чаго вам не ставала ў час паездкі па Канадзе?

— Сустрэч з людзьмі...

— ?!

— Так, так. Хай гэта вас не бянтэжыць. Я падыходжу да такога мерапрыемства са сваёй меркай. І параўноўваю, як, скажам, спланавалі б мы Дні культуры Канады ў Беларусі. Мы абавязкова ўключылі б сустрэчы з рабочымі і інжынерамі нашых заводаў, дыскусіі, паездкі ў калгас.

— Але, пагадзіцеся, у нас і ў іх не аднолькавыя магчымасці. Там вас прымалі таварыства «Квебек-СССР» і асацыяцыя «Канада — СССР» — арганізацыі разрозненыя, нешматлікія. Да таго ж, не ведаю, як цяпер, а да нядаўняга часу — арганізацыі, якія лічыліся прасавецкімі і таму не мелі высокага статусу ў дзяржаве.

— І тым не менш, я хачу адзначыць, што і асацыяцыя, і таварыства зрабілі, напэўна, усё, што маглі. Было шмат наведвальнікаў на выступленнях «Свята». На канцэрце ў Таронта, які арганізавалі асацыяцыя «Канада — СССР» і грэчаскае зямляцтва, зала на 1 000 месц была бітком набіта. І ў іншых гарадах таксама збіралася шмат публікі. Хаця, чаго граху таіць, магло быць значна болей. Я не раз чула ад тых, хто быў у зале: «Цудоўны канцэрт! Шкада, што нашых знаёмых не было. Будуць крыўдзіцца, але ж мы самі даведаліся пра вас праз дзесятыя рукі». Мяркую, што «Свята» і наогул Дні культуры не мелі належнай рэкламы.

Апрача выступленняў «Свята», былі выстаўкі ў тых жа памяшканнях, дзе адбываліся канцэрты. У Таронта — выстаўка беларускай графікі. Але зноў жа — у фае, для вузкага кола людзей, тых, хто прыйшоў на канцэрт. У іншых гарадах былі выстаўкі нашых кніг, сувенірных вырабаў. Лічу, што гэтага было мала, бо ў момант р[illegible]пілі, нарасхват ішлі нашы [illegible]урвэткі, плеценыя вырабы. Надта ж прасілі арганізатары, каб мы ім пакінулі ўсё, што было на выстаўцы графікі — многім хацелася набыць карціны беларускіх мастакоў. [illegible] мы мусілі вярнуць экспан[illegible] Мінск, бо гэта творы мастацтва з нашых музеяў.

— Я магу сабе ўявіць, як праходзілі выступленні нашага ансамбля пад кіраўніцтвам Васіля Купрыяненкі. Відаць, гэта было стрыжнем Дзён культуры?

—Без перабольшання скажу, што гэта было свята «Свята». Не толькі для тых, хто глядзеў, а і для саміх артыстаў. Звычайна, толькі першых 15-20 мінут залу агортвала нейкая насцярожанасць, ці што. Потым лёд стрыманай увагі раставаў і надыходзіў час нястрымных эмоцый. А другое аддзяленне канцэрта — адно захапленне. Усюды ансамбль прымалі цудоўна. Усіх зачароўвалі беларускія мелодыі, абуджалі глыбокія пачуцці. Сама назірала такія сцэны ў зале: людзі проста заходзіліся ад слёз.

Добра нас прымалі ў Вініпегу, другі канцэрт там адбыўся ў цудоўнай сучаснай зале гарадскога тэатра. Пра канцэрт у Таронта я ўжо згадвала. Дадам толькі, што пасля выступлення «Свята» грэчаскае зямляцтва, а ў ім многа савецкіх грэкаў, якія выехалі ад нас у пачатку 80-х гадоў, наладзіла нам прыём і свой канцэрт.

Наш ансамбль, як кажуць, з ног валіўся: два выступленні ў кожным горадзе — гэта не жарт. Але ж і радасці артыстаў не было межаў — так высока, так шчыра канадцы ўспрымалі беларускую песню.

— Людзі заходзіліся ад слёз... Па вашых словах магу меркаваць, што гэта былі нашы суайчыннікі.

— Маеце рацыю: з суайчыннікамі мы там сустракаліся на кожным кроку. Памятаю першы дзень: учора вечарам мы прыляцелі ў Манрэаль, на двары мінус чатыры градусы, а сёння — плюс усе дваццаць...

— Можна сказаць, — сімвалічна нават!

— Так, цёплае надвор'е — надзвычай цёплы прыём беларускай дэлегацыі канадцамі... Дык вось, ідзем мы па Манрэалі, і раптам дождж, ды такі, што свету белага не відаць. Заскочылі мы ў нейкі магазінчык, каб ратавацца ад ліўня. Стаім, перакідваемся словамі, а гаспадар прыслухоўваецца. Потым падыходзіць і пытае, нібы не верачы сабе: «Вы адкуль? З Расіі?». Мы адказваем, адкуль прыехалі. «Ды можа вы з тых, што вечарам канцэрт даюць?» Мы пацвярджаем. «Вой, усклікае, браткі, дык я ж — крупскі! З Крупак, значыць. Я — свой! У мяне машына за квартал адсюль. Пачакайце, я вас адвязу».

Праз колькі хвілін прыгнаў машыну, давёз нас да гасцініцы. А вечарам на канцэрт прыйшоў і ўсіх сваіх крэўных ды знаёмых прывёў...

Вось такіх нечаканых сустрэч было нямала. Але хацелася, каб яны былі даўжэйшымі, а не так — на хаду. Каб мы маглі няспешна пагаварыць з канадцамі, і не толькі беларусамі, паслухаць іх і атрымаць больш глыбокае ўяўленне аб краіне і народзе. І каб яны нас засыпалі пытаннямі.

У Ванкуверы з-за дажджу мы практычна не бачылі горада. Але я асабіста і не шкадую, бо мы многа тут сустракаліся з людзьмі. У тым ліку і з беларусамі. Ну, вось адна з такіх сустрэч. У перапынку, пасля першага аддзялення канцэрта, падыходзіць да нас чалавек і пытаецца: «Дык вы і на самай справе з Беларусі? А ці ведаеце в[illegible]зе Мар'іна Горка?» Адказ[illegible] што я сама родам адтуль. Чалавек не мог даць веры, што сустрэў зямлячку. Ён запрасіў нас назаўтра ў госці да сябе. Так мы пазнаёміліся з сям'ёй Гарэлікаў. Аказалася, што гаспадар дома захацеў зрабі[illegible]кі нечаканы падарунак сь[illegible] жонцы ў дзень нараджэння. Для нас гэта была таксама прыемная неспадзеўка. Нас так сустракалі!.. Так былі ўдзячныя, Не ведалі, на які кут пасадзіць, як дагадзіць. Бо для іх гэта была радасць — землякі ў доме. А для нас — узрушэнне, што такія гасцінныя нашы замежныя беларусы. І як яны захоўваюць свае традыцыі!

— Людміла Мікалаеўна, і нарэшце, пра самую цікавую сустрэчу—са Стэнлі (а па-нашаму Станіславам) Скарынам, нашчадкам Францыска Скарыны...

— Вядома, гэта была нештодзённая стрэча. Пачакайце, вось тая фатаграфія, дзе мы разам сфатаграфаваліся на памяць. А вось яго кніга з аўтографам... У будучым годзе, 4 верасня, ён мяркуе спраўляць сваё 70-годдзе, але гэта яшчэ моцны, энергічны і вельмі адукаваны чалавек. Стэнлі Скарына прыняў нас у сваёй лабараторыі. Ён прафесар універсітэта Мак-Гіл у Манрэалі, вядомы хірург. Спачатку гэта нагадвала візіт ветлівасці, а потым ён доўга трымаў нас, не хацеў адпускаць. Мы многа расказвалі адзін аднаму пра яго вялікага продка. Ён, ведае ўсё пра Скарыну, але быў уражаны, колькі ведаем мы і як яго шануем.

— Даруйце, а на якой жа мове вы маглі зразумець адзін аднаго?

— О, перакладчык нам не спатрэбіўся! Скарына нядрэнна ведае і рускую, і чэшскую, і нават нешта з беларускай. Пра польскую я ўжо не кажу — ён па паходжанні паляк, нарадзіўся ў Польшчы, але, гаворыць, што ў яго радаводзе ўсё перамяшана.

—Людміла Мікалаеўна, у вас засталося многа ўражанняў пасля паездкі на Дні беларускай культуры ў Канаду. І, я перакананы, асабліва ад сустрэч з беларусамі. Можа час ад часу, калі надарыцца вольная хвіліна ў гэтым кабінеце, дзе вы працуеце, нешта ўсплыве ў памяці...

— Пакуль што карціны сустрэч усплываюць часта. Гэта прыемныя ўспаміны. Карыстаючыся нагодай, хачу шчыра павіншаваць усіх беларусаў у Канадзе, усіх суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны з Новым годам. Хачу пажадаць ім міру, шчасця і дабрабыту.

**Вёў інтэрв'ю**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**



У навагоднім убранні.

Фотаэцюд Э. КАБЯКА.

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

**У рэдакцыю «Голасу Радзімы» прыйшло пісьмо з Польшчы ад нашага пастаяннага чытача, члена праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку Віктара Шведа. У ім не толькі расказ пра свой адпачынак у Беларусі, але і вершы, напісаныя пад уражаннем тых дзён. Сёння мы публікуем пісьмо і вершы Віктара ШВЕДА.**

# У САНАТОРЫІ «КРЫНІЦА»

У рамках супрацоўніцтва Беларускага таварыства «Радзіма» з замежнымі беларускімі прагрэсіўнымі арганізацыямі я на працягу дваццаці чатырох дзён кастрычніка гэтага года знаходзіўся ў санаторыі «Крыніца», што пад Мінскам. Пасялілі мяне ў адным пакоі з Рыгорам Скалковічам, беларусам з Аргенціны. Аказалася, што ў дзіцячыя гады жылі мы па-суседску — я на адным, ён на другім баку Белавежскай пушчы. Радніць нас яшчэ і тое, што як бацькі Скалковіча, так і мае, запісаліся на выезд у Аргенціну. Скалковічы выехалі туды ў 1936 годзе, а выезду маіх бацькоў перашкодзіла другая сусветная вайна. Цяжкія ўмовы жыцця, асабліва ў вёсках былой Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, прымушалі сялян да эміграцыі ў пошуках работы і сродкаў да жыцця.

Ад першага дня знаходжання ў санаторыі «генеральным рамонтам» нашых арганізмаў занялася нястомная доктар Галіна Макіёнак. Прыпісала яна нам рознага роду лячэбныя працэдуры: ультрагук, інгаляцыі, парафінавыя праграванні, мінеральныя воды. А на аслабленыя ўжо сэрцы — прагулкі маляўнічымі алеямі між беластволых бяроз і па сасновых пагорках і тратуарах уздоўж прасторнага вадасховішча Крыніца. Са здавальненнем хадзілі мы таксама на дрэмлючае ўжо ў познюю восень Мінскае мора.

Клапаціліся ў санаторыі не толькі пра нашы целы, але таксама і пра душы. Энергічны кіраўнік клуба Аляксандр Бабініч запрашаў нас на ўсе культурна-асветныя мерапрыемствы. Амаль штодзень дэманстраваліся ў клубе цікавыя кінафільмы. Выступалі тут вядомыя беларускія спевакі, эстрадныя, харавыя і танцавальныя калектывы, чыталіся цікавыя лекцыі, арганізоўваліся краязнаўчыя экскурсіі па Мінску і наваколлі.

Мая шчырая падзяка належыць Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў БССР, у якім таксама паклапаціліся пра мяне і арганізавалі мае аўтарскія сустрэчы ў суседнім санаторыі «Беларусь», а таксама з мінскімі школьнікамі. Усюды нас прымалі надзвычай сардэчна і прасілі прыязджаць да іх часцей.

Асаблівую падзяку выказваю кіраўніцтву Беларускага таварыства «Радзіма» за запрашэнне і галоўнае за тое, што пасля гэтага «генеральнага рамонту» арганізму ў санаторыі «Крыніца» я з новымі сіламі магу і надалей працаваць на ніве беларускай культуры.

**Віктар ШВЕД.**

## ДРУГУ З АРГЕНЦІНЫ

*Рыгору СКАЛКОВІЧУ прысвячаю.*

**З аднаго я, ты з другога**
**Белавежскай пушчы боку.**
**Павялі цябе дарогі**
**Дружа мой, у свет шырокі.**

**Ты жывеш у Аргенціне**
**За мяжой, за акіянам.**
**У дзяцінства ты айчыне**
**Апынуўся нечакана.**

**Падружыў нас санаторый**
**З мілай назваю «Крыніца».**
**Я і ты ўжо крышку хворы,**
**І тут хочам падлячыцца.**

**Ды адгэтуль неўзабаве**
**Зноўку вернемся дахаты,**
**Стрэцца нам было цікава,**
**Успамінаў так багата.**

**І калі ўжо мы дадому,**
**Дружа, паляцім, як гусі,**
**Будзем памятаць, вядома,**
**Мы гасціннасць Беларусі.**

## МІНСКАЕ МОРА

**Кануў у вечнасць гадок каторы,**
**Калі пабыць тут мне давялося.**
**Мінскае мора, слаўнае мора,**
**Цябе вітаю ў познюю восень.**

**Ззяе пустэчай уся прастора,**
**Холадам цягне ад зыбкіх хваляў.**
**Мінскае мора, слаўнае мора,**
**Стаю маўкліва на пляжы з жалем.**

**Я на ўзбярэжжы стаю з дакорам,**
**Што не ўдалося пабыць тут летам.**
**Мінскае мора, слаўнае мора,**
**Было ж ты яркім сонцам сагрэта.**

**Здаецца, мора нешта гаворыць,**
**Мо гэта лета яшчэ адгалоскі.**
**Мінскае мора, слаўнае мора,**
**Прымі вітанні ад Мора-вёскі.**

*МНЕНИЕ УЧЕНОГО*

# НЕОБРАТИМОСТЬ ПЕРЕСТРОЙКИ — В ОТКРЫТОСТИ ЭКОНОМИКИ

*С членом-корреспондентом АН СССР Николаем ПЕТРАКОВЫМ о процессе экономических преобразований в стране беседует журналист Евгений СОРОКИН.*

**— В стране нарастает напряженность из-за медленных темпов экономических преобразований. Что, на ваш взгляд, необходимо сделать, чтобы активизировать процесс реформ!**

— Я считаю, что основной акцент должен быть сделан на открытости нашей экономики. Новому политическому мышлению должно симметрично соответствовать и новое экономическое мышление. Включение СССР в систему международного разделения труда — самое важное свидетельство необратимости перестроечных процессов.

В течение многих десятилетий мы развивались как замкнутая экономическая система и создали почти абсолютно замкнутую экономику, доказав, что такая экономика может существовать. Однако, с точки зрения экономиста, это безумие: стремиться создать все продукты любой ценой в одной отдельно взятой стране. Нам необходимо взять совершенно новый экономический курс и строить отношения с остальным миром на новых условиях: вступить во все международные экономические организации, такие как Международный валютный фонд, международная организация по тарифам ГАТТ, Мировой банк развития.

Чтобы стать членами этих организаций, нужно провести значительные экономические реформы. Советский рынок в силу своей емкости привлекателен для западного капитала. Но для того, чтобы западный капитал пришел к нам, нужно, чтобы этот рынок был похож на рынок.

**— Что же необходимо предпринять, чтобы создать этот самый рынок!**

— Нам нужно разрушить государственный монополизм — рынок это прежде всего конкуренция. У нас сейчас существуют два типа монополий: организационные, как я их называю, и технологические. Организационные монополии — это прежде всего отраслевые министерства и такие монопольные фирмы, как Аэрофлот или Интурист. Эти монополии можно очень быстро расчленить на отдельные концерны. Для этого нужна только значительная политическая воля, потому что со стороны этих ведомств ощущается сопротивление. Перед политическим руководством стоит грандиозная задача — сломать сопротивление, преодолеть инерцию и отобрать власть.

Но существуют и технологические монополии. Так, существовала догма, по которой большое предприятие считалось лучше, чем маленькое или среднее, превалировал курс на гигантоманию. Возникает вопрос, как вводить конкуренцию в условиях существования огромных производств и как осуществлять защиту прав потребителя. Вот здесь мы должны принять антимонопольный закон.

Нам необходимо создать систему гибких цен, так как только при таких ценах возможна конкуренция. Это не простая проблема, особенно, когда касается предметов потребления. Потому что государство держит искусственно низкие цены на некоторые виды продукции, с одной стороны, а с другой — сохраняет относительно низкий средний уровень заработной платы. Но если снимать искусственные ограничения, нужно позаботиться о системе социальной защиты низкооплачиваемых слоев населения: пенсионеров, студентов, некоторых категорий работников.

Другая проблема, которую нам нужно решить при создании рынка, это стабилизация денежной единицы, основанная на конвертируемости рубля. Это и будет реализацией идеи открытой экономики, о которой я уже говорил. Дело в том, что западный капитал широким потоком устремится на советский рынок только тогда, когда появятся гарантии обратной репатриации доходов.

**— Когда, на ваш взгляд, возможно введение конвертируемого рубля!**

— Среди советских экономистов и практиков есть две точки зрения. Первая заключается в том, что это произойдет, когда перестройка завершится, когда мы сбалансируем внутреннюю экономику. Это станет логическим завершением экономических реформ. Но я считаю, и это вторая точка зрения, перестройка вообще не состоится, если мы уже сейчас не займемся этой проблемой. Но это не значит, что мы можем решить эту проблему в один день. Однако очевидно, мы не должны затягивать.

Мы можем начать [illegible] процесс, например, с [illegible]дения специального конвертируемого рубля для свободных экономических зон и для зон действия совместных предприятий.

**— Нормально ли, с вашей точки зрения, работае[illegible] система кооперативов!**

— Конечно, ненорма[illegible]о. Ситуация характеризуется тем, что система, которая должна работать в условиях рынка, столкнулась с нерыночной системой. Люди винят кооперативы за то, что они работают по свободным ценам. Но людей возмущает не только то, что это свободные цены, сколько то, что это высокие цены. Они считают, что, если цены высокие, нужно отменить их. Но на самом деле высокие цены определяются тем, что нет реальной конкуренции. Прежде всего кооперативов мало, так как государственные чиновники искусственно создают состояние монополизма для тех немногочисленных кооперативов, которым они разрешили функционировать. Искусственно сдерживая рост кооперативов, они стимулируют рост цен. Создав такую ситуацию, они потом говорят народу: смотрите, какие плохие организации. Но сами государственные чиновники не могут организовать производство должным образом. Они экономические импотенты.

**— Если бы вы были Горбачевым, что бы вы сделали, чтобы ускорить процесс реформ!**

— Я бы рекомендовал народу поменьше надеяться на государство и побольше надеяться на себя. Я считаю, что одним из тормозов перестройки является психология иждивенчества. Прежде ни один диктатор, ни один тиран в истории не говорили народу, которым властвовали: мы тебя накормим. Они никогда не учили народ, как пахать землю, как варить сталь. Во все времена власть брала налоги с народа и тем жила. Власть не кормила, а кормилась от народа. И только Советская власть 70 лет назад взяла на себя груз сказать народу: мы тебя накормим, мы обеспечим тебе благосостояние. И народ ответил: давайте, обеспечивайте!

Сейчас приходится уходить от этого стереотипа мышления, а это очень болезненно.



**Здание собора Петра и Павла, которое находится в гомельском парке имени Луначарского, всегда привлекало внимание гостей и горожан.**

**Когда-то верующие по грошику собирали деньги на строительство этого храма. Последняя служба состоялась здесь в 1961 году. И вот через 28 лет, благодаря общественным условиям, созданным перестройкой, ключи от Петропавловского собора городские власти снова передают прихожанам.**

**НА СНИМКЕ: Петропавловский собор, где начинаются реставрационные работы.**

**Фото С. ХОЛОДИЛИНА.**

**ВЕЛИКОДЕРЖАВНЫЙ ШОВИНИЗМ, ДИРЕКТИВНЫЙ ЦЕНТРАЛИЗМ...**

# К НАЦИОНАЛЬНОМУ РАВНОПРАВИЮ

«Русские, уезжайте домой!»... «Нет» оккупации!», «Прекратить экологическую агрессию!» — эти и подобные им лозунги стали почти обычными во время митингов и шествий, организуемых национальными фронтами в различных советских республиках, прежд[illegible]его в Прибалтике, в Молдавии, Грузии, на У[illegible]ине. Поначалу это воспринималось как проявление крайностей в бурно развивавшемся процессе национального пробуждения, общего роста политической активности населения, особенно в среде студентов, молодежи. Но постепенно ссылки на экстремизм изжили себя, [illegible] как лидеры новых движений достаточно [illegible]вательно, с фактами в руках доказывали обоснованность своих требований унять безоглядную миграцию рабочей силы, защитить от агрессии союзных министерств-монополистов природу и местные хозяйственные уклады, возродить национальные языки, культуру, традиции.

Межнациональные отношения в последнее время не были, правда, свободны и от действительно экстремистских вспышек с насилием и жертвами, как, например, в Казахстане (Алма-Ата, Новый Узень), Закавказье (Нагорный Карабах), в Средней Азии (Фергана). Однако они стоят в какой-то мере особняком и связаны не только с застарелыми национальными обидами, перекосами в социальной политике, но и с дестабилизирующими усилиями преступных элементов, больших и малых групп мафиози, заинтересованных в осложнении обстановки. Такие вспышки насилия решительно пресекаются правоохранительными органами, а при необходимости и специальными подразделениями внутренних войск страны. В советском уголовном кодексе есть специальная статья, предусматривающая наказание за разжигание национальных страстей, вражды, и правоохранительные органы используют предоставляемые ею возможности.

Стоит сказать, что собственно национальные движения не стремятся к использованию насильственных методов борьбы, хотя в своих программных требованиях весьма радикальны, проводят нередко митинги и шествия, не санкционированные властями, призывают на них к выходу из состава СССР, а иногда и к отказу от социалистических ценностей.

Российские социал-демократы уже в первой программе своей партии, принятой в 1903 году, провозгласили полную равноправность всех граждан независимо от пола, религии, расы и национальной принадлежности, а также право на самоопределение за всеми нациями, входящими в состав государства. Позднее, в значительной мере усилиями В. И. Ленина, принцип национального самоопределения был уточнен и дополнен правом любой нации на образование собственного государства.

И после Октябрьской революции, особенно в процессе подготовки создания СССР (30 декабря 1922 года), В. И. Ленин уделял национальной политике много внимания. При этом он старался не допустить каких бы то ни было шовинистических притязаний со стороны Москвы, великороссов, выразившихся, в частности, в сталинской модели «автономизации» — включения всех советских республик в состав Российской Федерации на правах автономий. В. И. Ленин раскритиковал эту модель, но не поддержал и националистические стремления руководителей Грузии, некоторых других республик, стоящих тогда на позициях независимого развития, установления между ними договорных отношений на началах конфедерации. Победу в дискуссиях одержала позиция В. И. Ленина — образовать единое государство в виде федеративного союза равноправных республик.

Даже сегодня, в свете неблагоприятных событий в межнациональных отношениях, обнаружившихся нерешенных проблем, было бы несправедливо отрицать достигнутое в этой сфере. Да и сам характер нынешних событий свидетельствует, что идея национального равноправия глубоко укоренилась в сознании всех народов СССР, даже самых малых из них, насчитывающих до нескольких тысяч человек, но также требующих внимания к их языку, культуре, к среде их обитания, к их правам и достоинству.

Конечно, национальное равноправие в СССР, как теперь видно, недостаточно обеспечивалось на практике, применительно к конкретным реальностям той или иной республики. Настойчивость больше тратилась на лозунги, на провозглашение этого высокого принципа, а не на анализ действительного положения, исправление ошибок. К тому же торопливость в решении национальных проблем, вера в тесное сближение, а потом и скорое слияние наций порождали трескучий оптимизм, невнимание к особенностям, самобытности каждого народа, небрежение к судьбам их языков, культуры. Все это сделало равноправие, к которому искренне стремились, в какой-то мере искусственным, бутафорским. Пугавший десятилетия назад великодержавный шовинизм отступил, но его место прочно занял директивный государственный централизм как в экономике, так и в других сферах жизни, который способствовал возрождению в республиках пестрого национализма, нередко демонстрирующего в последнее время шовинистические зубы. Делаются попытки, например, в Прибалтике, ввести в избирательные законы или законы о республиканском гражданстве ценз оседлости, что нарушает права человека, противоречит международным пактам и конвенциям, к которым присоединился Советский Союз.

Стала ясной необходимость радикальных преобразований в советской федерации, действительного обеспечения суверенитета и самостоятельности республик, образующих союз. Принятая в сентябре 1989 года Пленумом ЦК КПСС партийная платформа по национальной политике дает широкие основы для таких преобразований. Она уже реализуется в законотворческом процессе. Особое значение будут иметь закон о гарантиях прав граждан СССР, проживающих за пределами своих национально-территориальных образований или не имеющих их на территории СССР, закон, обеспечивающий обучение в школе на родном языке, закон, гарантирующий судебно-правовую защиту национальной чести и достоинства человека, закон, ставящий под запрет националистические или шовинистические организации, и ряд других. Их цель предотвратить любые ущемления прав человека по национальному признаку, ибо они неприемлемы для правового государства.

**Владимир КИРИЛЛЮК.**





**У Мікалаеўскай сярэдняй школе, на радзіме Якуба Коласа дзейнічае літаратурнае аб'яднанне «Маладыя каласкі». Члены яго вывучаюць тэорыю літаратуры, багацце мовы, выдаюць рукапісны літаратурны альманах «Натхненне», у якім заўсёды ёсць месца і для першай пробы пяра, і для вершаў тых, хто ўжо друкаваўся. На пасяджэннях аб'яднання часта бываюць былыя выпускнікі школы Мікола Маляўка, Алесь Камароўскі, Мікола Міцкевіч і іншыя, якія вырашылі стаць прафесійнымі літаратарамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: заслужаны настаўнік БССР Ленгіна ЦВІРКО на ўроку беларускай літаратуры ў адзінаццатым класе; да помніка народнаму песняру першакласнікі прыйшлі са сваёй настаўніцай Марынай РЫНДЗЕВІЧ.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# ЯЎХІМ ЛІТАВОР З РОДУ ХРАПТОВІЧАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак у № 50).**

Больш паслядоўна ў ажыццяўленні сваіх поглядаў Я. Храптовіч выступаў у іншай галіне грамадскай дзейнасці — рэформе існуючай дагэтуль школьнай сістэмы і пашырэнні асветы ў краі. Тут ён больш актыўна і метадычна праводзіў у жыццё ідэі асветнікаў і фізіякратаў, якія лічылі, што адукаваны селянін будзе лепш гаспадарыць на зямлі і тым спрыяць павелічэнню заможнасці сваіх гаспадароў і агульнага багацця ўсёй краіны.

Думка аб перабудове адукацыі, якая на Беларусі цалкам знаходзілася ў руках царквы, выспела ў прагрэсіўных колах грамадства яшчэ ў першай палове XVIII стагоддзя. Перш за ўсё мелася на ўвазе вызваленне выкладання прыродазнаўчых і фізіка-матэматычных навук ад сярэдневяковай схаластыкі і тэалогіі, наданне школе свецкага характару і ўсталяванне дыдактычных прынцыпаў навучання.

Правядзенню школьнай рэформы зацята перашкаджалі клерыкалы і закаснелая ў невуцтве шляхта. Адукацыя народа, асабліва сялян, палохала, пагражала стратай прывілеяванага становішча. Сацыяльны эгаізм, звычка жыць за чужы кошт і інстынкт класава-саслоўнага самазахавання набывалі часам пачварныя формы. Паказальныя ў гэтых адносінах паводзіны гродзенскай шляхты. Устрывожаная новымі павевамі, яна яшчэ ў 1733 годзе звярталася ў сойм з прапановай «аб выданні цвёрдага закона, каб нікога з сялянскіх дзяцей не прымалі ў школы для навучання грамаце». Сваё рашэнне шляхта з адкрытым і здзеклівым цынізмам да сваіх аднаверцаў-католікаў аргументавала тым, што «сялянскі род добры, калі знаходзіцца ў смутку, але дрэнны, калі ён у радасці або калі адукаваны школьнымі навукамі».

Выключна адмоўную пазіцыю да школьнай рэформы займалі езуіты. Яны, па сутнасці, манапалізавалі выхаванне юнацтва на Беларусі, аплёўшы краіну густой павуцінай сваіх калегіумаў. Палітычна і эканамічна гэта быў моцны і небяспечны вораг усіх прагрэсіўных пачынанняў. Фінансавую праблему нечакана дапамог вырашыць папа Клімент XIX. У 1773 годзе ён выдаў булу аб скасаванні ордэна езуітаў, надзвычай багатай, рэакцыйнай і ўплывовай каталіцкай арганізацыі. Аб багацці «Таварыства Ісуса» можна меркаваць па тым, што адным толькі калегіумам на тэрыторыі Беларусі ў гэты перыяд належала больш як паўмільёна дзесяцін ворнай зямлі і амаль 50 тысяч прыгонных сялян.

Роспуск ордэна адразу ж скарысталі прыхільнікі школьнай рэформы. На пасяджэнні сойма 1773 года Храптовіч прапанаваў стварыць Адукацыйную камісію, а ўсе сродкі, рухомую і нерухомую маёмасць езуітаў перадаць фонду «адукацыі і выхавання юнацтва». Пры перадачы езуіцкіх маёнткаў і маёмасці не абышлося без злоўжыванняў. Нават сам старшыня камісіі князь Масальскі добра пагрэў пры гэтым рукі, а князь Сулкоўскі «прыхапіў 584 тысячы злотых, якія так і прапалі».

Адукацыйная камісія — «першае ў гісторыі чалавецтва міністэрства асветы» — адкрыла на Беларусі 20 школ: 17 з сярэдняй ступенню навучання і тры акадэмічныя — у Брэсце, Гродне і Навагрудку. Статут Адукацыйнай камісіі патрабаваў ад настаўнікаў развіцця ў дзяцей самастойнага мыслення: «каб вучні больш рабілі поспехаў разважаннямі, чым завучваннем прадметаў на памяць». Школа вызвалялася ад дагматызму і царкоўнай схаластыкі, пераходзіла ў рукі дзяржавы і хаця цалкам не пазбавілася клерыкальнага ўплыву, стала свецкай. Навучанне праводзілася па адзіных праграме і падручніках, у якіх галоўнае месца адводзілася прыродазнаўчым прадметам, у тым ліку і фізіцы, якую тады называлі «каронай філасофіі».

Значна пашырылася сетка школ для сялянскіх дзяцей. Праграма прадугледжвала навучанне грамаце (чытанне і пісанне), асваенне чатырох арыфметычных дзеянняў і практычнай геаметрыі. У некаторых сельскіх школах, як, напрыклад, у Шчорсах і Вішневе, вывучалі паэтыку і рыторыку, а таксама беларускую і стараславянскую мовы. Акрамя таго, вучні атрымлівалі агульныя звесткі аб з'явах прыроды, знаёміліся з асновамі агратэхнікі, набывалі практычныя навыкі па найбольш распаўсюджаных і неабходных у сялянскім жыцці рамёствах. Для замацавання ведаў абавязкова праводзілася паўтарэнне пройдзенага матэрыялу. Пры вывучэнні мовы і паэтыкі выконваліся пісьмовыя практыкаванні, у тым ліку напісанне сачыненняў, часта ў форме дыялогаў, гутарак некалькіх асоб. Тэматычна яны звязваліся з канкрэтнымі жыццёвымі падзеямі і часам закраналі палітычна далікатныя пытанні. Вучні Вішнеўскай школы, напрыклад, у 1780 годзе на выпускным экзамене пісалі сачыненне на тэму: «Прыгонныя, што стогнуць у няволі». Настаўнік пасля меў непрыемнасці, але ад кары яго выратавала спасылка на выказаныя ў працах Я. Храптовіча погляды.

На гэтым дарога сялянскіх дзяцей у навуку звычайна заканчвалася. Толькі адзінкам, відаць, найбольш здольным і, зразумела, з больш заможных сем'яў, пашанцавала атрымаць вышэйшую адукацыю. Тых, каму пашанцавала пераадолець сацыяльную мяжу і выбіцца ў людзі, Я. Храптовіч звычайна пакідаў працаваць у сваіх маёнтках па спецыяльнасці. Сярод іх можна назваць сына прыгоннага селяніна са Шчорсаў Ігната Аржахоўскага. У 1830 годзе ён абараніў у Віленскім універсітэце дысертацыю і, стаўшы доктарам медыцыны, выкупіў з прыгону бацькоў і... самога сябе. Прыведзены факт пралівае дадатковае святло на пытанне пра так званае асабістае вызваленне сялян у Шчорсах.

Імя Я. Храптовіча непарыўна звязана з пашырэннем свецкай асветы ў краі. Ён узначальваў дэпартамент акадэміі і школ, быў адным з самых ініцыятыўных стваральнікаў і актыўных членаў Адукацыйнай камісіі ўвесь дваццацігадовы перыяд яе існавання. Не варта забываць і пра ўскосны ўплыў Храптовіча на вырашэнне многіх, асабліва складаных пытанняў, якія паўставалі перад камісіяй. Высокае становішча падканцлера, а затым і канцлера Вялікага княства Літоўскага, безумоўна, самым лепшым чынам спрыяла рабоце Адукацыйнай камісіі і яе членаў, маральна падтрымлівала, бараніла ад падкопаў і нападкаў рэакцыйнай часткі магнацтва і шляхты, якія не маглі змірыцца з існаваннем свецкай школы. Менавіта яны, калі змянілася палітычная сітуацыя, стварылі Таргавіцкую канфедэрацыю і, як зграя згаладалых ваўкоў, накінуліся на прагрэсіўныя пачынанні перадавых колаў грамадства, у тым ліку і на Адукацыйную камісію. У 1794 годзе яны дамагліся свайго, і першае ў свеце міністэрства асветы перастала існаваць.

Вялікую надзею Я. Храптовіч ускладаў на навуку і ўсімі магчымымі сродкамі падтрымліваў яе прыхільнікаў. Для аб'яднання навукоўцаў і актывізацыі навуковай дзейнасці ён заснаваў у канцы XVIII стагоддзя «Таварыства сяброў навукі». Займаўся навукай і асабіста сам, выступаючы галоўным чынам як тэарэтык і папулярызатар эканамічных і філасофскіх ідэй фізіякратаў. У 1802 годзе з-пад яго пяра выходзіць кніга «Аб штогадовым нацыянальным узнаўленні». Аўтар развівае ў ёй погляды французскіх фізіякратаў у ракурсе прыстасавання іх да канкрэтных мясцовых умоў Беларусі. Неабходна падкрэсліць, што сваё даследаванне ён напісаў як дадатак да шырока вядомай працы аднаго з заснавальнікаў еўрапейскай школы фізіякратаў А. Цюрго «Разважанні пра стварэнне і размеркаванне багаццяў».

Кола інтарэсаў гэтага дапытлівага і апантанага навукай чалавека распаўсюджвалася і на такую прыкладную галіну ведаў, як тэарэтычнае і практычнае пчалярства. Вывучэнне біялогіі пчалінай сям'і мела, як цяпер прынята гаварыць, прамы выхад на практыку. Вучоны слушна лічыў пчалярства адным з дзейсных сродкаў паляпшэння дабрабыту сялян, а сяброўства з крылатымі працаўнікамі — заняткам, які выхоўвае высокую маральнасць і працавітасць.

Дзейнасць Храптовіча-пчаляра па свайму гістарычнаму значэнню на рэдкасць выключная. Зробленае ім у гэтай галіне садзейнічала ўсталяванню ў практычным пчалярстве рацыянальных спосабаў і прыёмаў догляду пчол. «Гэты славуты знаўца і аматар пчалярства», пісаў у 1842 годзе ў сваёй сусветна вядомай кнізе «Практычнае пчалярства» М. Вітвіцкі, адкрыў закон адваротна прапарцыянальнай узаемасувязі раення з аб'ёмам пчалінага жытла і, адштурхнуўшыся ад яго, стварыў у параўнанні з калодным прынцыпова адметны тып вулля. Закон і вулей Храптовіча, названы ім прыстаўным, дазваляў пчаляру свядома ўмешвацца ў працэс раення, затрымліваць або паскараць яго і тым самым павышаць прадукцыйнасць кожнае пчалінай сям'і.

Яшчэ пры жыцці Храптовіча Шчорсы сталі своеасаблівым навукова-даследчым цэнтрам. Тут было створана унікальнае па тэматычнаму падбору, храналагічнаму ахопу і колькасці літаратуры, архіўных матэрыялаў і твораў мастацтва сховішча. Яго фонды складаліся амаль што з 20 тысяч уліковых адзінак захоўвання: кніг па самых разнастайных пытаннях гісторыі, культуры, эканомікі, філасофіі, сельскай гаспадаркі, у тым ліку і беларускіх старадрукаў, арыгіналаў і копій розных дакументаў канцылярыі Вялікага княства Літоўскага, лістоў, прывілеяў і грамат вялікіх князёў і каралей, геаграфічных карт, чарцяжоў, малюнкаў, адозваў і г. д. Сярод гэтага каштоўнейшага багацця было многа унікальных матэрыялаў.

Пачатак кнігазбору ў сярэдзіне XVIII стагоддзя паклаў Я. Храптовіч і ўсё сваё доўгае жыццё пры кожнай нагодзе памнажаў фонды, вышукваючы патрэбныя кнігі, дзе толькі мог. Наколькі ён быў ініцыятыўным і настойлівым у гэтай справе, сведчыць той факт, што яму з далёкай Беларусі ўдалося апярэдзіць сваіх рымскіх канкурэнтаў і набыць найбольш каштоўныя і старажытныя фаліянты з бібліятэкі кардынала І. Імперыялі пасля яго смерці. Дастойным прадаўжальнікам справы бацькі і такім жа заўзятым бібліяфілам быў і яго сын Адам.

У адрозненне ад некаторых іншых прыватных кнігазбораў дзверы шчорсаўскай бібліятэкі былі заўсёды гасцінна расчынены перад даследчыкамі, больш таго, кожнаму адводзілі асобны пакой для навуковых заняткаў, а для прыезджых — месца для начлегу. А сюды прыязджалі і тыя, што рабілі першыя крокі ў навуцы, і вядомыя, з еўрапейскімі імёнамі вучоныя: астраномы М. Пачобут і Я. Снядзецкі, філосаф А. Снядзецкі, гісторыкі І. Лялевель, І. Даніловіч, М. Маліноўскі, Ю. Ярашэвіч.

Пратапталі сюды сцяжынку ў пошуках матэрыялаў паэты і літаратары: А. Міцкевіч, А. Адзінец, У. Сыракомля, перакладчык М. Вольскі. Паэт і фальклярыст Я. Чачот, знясілены дзесяцігадовай ссылкай і сухотамі, знайшоў тут прытулак і кавалак хлеба.

Згодна правілам пачатку XX стагоддзя, карыстацца фондамі бібліятэкі маглі без абмежавання як мясцовыя, так і замежныя даследчыкі. Адначасова на рукі выдаваліся 10 друкаваных кніжак і 4 тамы рукапісаў. Па хадайніцтву навуковых устаноў бібліятэка высылала кнігі і па пошце, у тым ліку і за мяжу.

У 1892 годзе мужчынская лінія роду Храптовічаў скончылася. Шчорсы, якія ўжо ў XVI стагоддзі ўпамінаюцца ў пісьмовых крыніцах як радавое гняздо Храптовічаў, перайшлі да пляменніка Міхала, а пасля яго смерці ў Парыжы да сына сястры А. Буцянёва-Храптовіча, першага ўладальніка Шчорсаў з роду Буцянёвых. Храптовічы яшчэ загадзя адпісалі кнігазбор і архіў першаму універсітэту, які адкрыецца на Беларусі. Аднак, як гэта нярэдка бывае ў жыцці, гісторыя распарадзілася па-свойму.

Напярэдадні першай імперыялістычнай вайны найбольш каштоўная частка бібліятэкі, агульнай колькасцю 4 500 тамоў, была вывезена на Украіну і перададзена ў часовае карыстанне Кіеўскаму універсітэту, а пасля рэвалюцыі — бібліятэцы Акадэміі навук Украінскай ССР. Дзякуючы апошняму ўладальніку Шчорсаў К. Буцянёву і прадбачлівасці прафесара М. Доўнар-Запольскага, пад непасрэдным наглядам якога былі адабраны і вывезены кнігі, значная частка духоўнага скарбу і неацэнных помнікаў культуры захавалася да нашых дзён. Пакінутае ў Шчорсах бясследна знікла ў полымі вайны.

Але не знікла памяць пра чалавека, пра якога дзеяч Вялікай Французскай рэвалюцыі Анорэ Мірабо пісаў як аб лепшым з усіх людзей, якіх ён ведаў, «як па сумленнасці розуму, так і па дабраце сэрца».

**Станіслаў ЦЯРОХІН.**

## НАРОДНЫ МАСТАК СССР МІХАІЛ САВІЦКІ ЗАВЯРШЫЎ «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ЦЫКЛ»

# НАД БЕЛАЙ ЗЯМЛЁЙ—ЧОРНЫ СМУТАК



Мастак згадзіўся на сустрэчу, толькі папярэдзіў, што часу мае зусім мала, бо праз дзень едзе ў Маскву на другі З'езд народных дэпутатаў СССР. А толькі што скончылася сесія Вярхоўнага Савета БССР, у якой ён таксама прымаў удзел.

У нас была адна гадзіна: пагаварыць, паглядзець карціны, сфатаграфаваць іх для газеты.

... Міхаіл Андрэевіч ужо чакаў. Моўчкі падвёў да палотнаў у рамах, адвернутых «тварам» да сцяны, пачаў па чэрзе разварочваць іх.

— «Плач аб зямлі», «Доля», «Рэквіем», «Відушчы»... — ціха, ледзь чутна гаварыў мастак, даючы магчымасць на вельмі кароткі тэрмін паглядзець карціну.

Мой калега шчоўкаў недзе збоку фотаапаратам. Кароткая ўспышка, як маланка, на нейкі момант асвятляла твары людзей на палотнах, скажоныя нявыказаным болем, горам і безвыходнасцю... Поўныя адчаю і смутку вочы дзядоў і дзетак, кабет глядзелі запытальна і строга. А над вёсачкай, што прытулілася сярод лясоў, нібы дзіўны прывід, узняліся анёлы ў белых адзеннях, каб аплакаць пакінутае людзьмі жытло і зямлю. Трагедыя. Як вострым нажом палаэнула па сэрцы ад жахлівага відовішча—васковага тварыка хлопчыка, над якім схіліла галазу Чарнобыльская мадонна...

Трагедыя.

Эмацыянальнае ўздзеянне твораў настолькі моцнае, што не адразу можаш апрытомнець і вярнуцца ў штодзённую звыкласць. Нейкім ірэальным здаецца белы снег за вокнамі майстэрні, гульня дзяцей ля суседняга дома, прахожыя з кветкамі, якія спяшаюцца на нейкую ўрачыстасць. Жыццё ідзе сваім ходам.

— Так, так. Жыццё ідзе сваім ходам, праўда, — паўтарае ўслед за мною мастак. — Але над ім завіс цень Чарнобыля, як злавесная перасцярога ўсяму чалавецтву. Неабходна ўсвядоміць, якой трагедыяй для нашага народа, для Беларусі стаў выбух на атамнай электрастанцыі. Яго неяк сціп[illegible] нейтральна называюць [illegible]ыяй. А гэта ж катастрофа. На жаль, дасюль яшчэ многія людзі не ўяўляюць маштабу трагедыі. Многае, вельмі многае замоўчвалася. Бадай што, толькі цяпер мы нарэшце маем больш-менш поўную інфармацыю.

Дзевяць палотнаў складаюць «Чарнобыльскі цыкл» Міхаіла Савіцкага. Мастак пачаў працаваць над ім неўзабаве пасля першых, трывожных тыдняў лета 1986-га. Адна з першых работ — «Крыж надзеі». Яна напісана па слядах падзей: з вёсак эвакуіравалі дзесяткі тысяч жыхароў. Мы ведаем, як гэта адбывалася тады. Раптоўна людзям было загадана сабраць пажыткі, іх вывезлі на аўтобусах з небяспечных месцаў. Пазней тыя месцы назвалі зонай адсялення. У зону адсялення трапілі сотні вёсак.

Мастак адмаўляецца ад літаральнага адлюстравання рэальных падзей, адкрытай публіцыстычнасці, ідзе па шляху філасофскага асэнсавання народнай трагедыі. На яго карціне перад дзвярыма хаты, якую гаспадары забілі крыж-накрыж, застыла ў роспачы і разгубленасці ўся сям'я. Тады, ад'язджаючы, многія думалі, што ненадоўга, што неўзабаве вернуцца, што жыццё яшчэ пацячэ звыклым ладам.

Мусіць, гэта работа — адна з найбольш аптымістычных у майстра, але, інтуітыўна адчуваючы непрадказуемасць далейшых падзей, аўтар дае шматзначную назву твору — «Крыж надзеі».

Больш за тры гады працаваў Міхаіл Савіцкі. Выпакутавана кожная карціна. За гэты час, як кажа мастак, былі напісаны не дзевяць работ, а значна больш. Знішчалася ўжо зробленае, узнікалі новыя задумы. Перапісвалася, я ведаю, палатно «Рэквіем».

— Трагедыя і Чалавек — вось задача, якую я паставіў перад сабой, задумаўшы зрабіць серыю карцін, — кажа М. Савіцкі. — Давайце паразважаем. Чалавек — найвялікшая каштоўнасць на зямлі. Так. Але вось здарылася трагедыя. Радыеактыўная зямля нясе смерць чалавеку. На ёй нельга жыць, яе нельга апрацоўваць. Яна мёртвая. А што чалавек без зямлі? Чалавек і радыяцыя. Несумяшчальна. Мы ўжо ведаем, чым стала для многіх пакаленняў японцаў Хірасіма і Нагасакі. (Недзе я чытаў, што Чарнобыль — гэта 70 хірасім і нагасак). Хваробы, калецтва... Радыяцыя не мае паху і колеру. Чалавек без спецыяльнага камбінезона і дазіметра — бездапаможны. Хто ведае, што чакае нас і тых людзей, якія апынуліся ў непасрэднай блізкасці да зоны? Адвечныя каштоўнасці ў такой сітуацыі — нішто. Усё губляе свой сэнс. Жаночая прыгажосць, мацярынства.

Думаецца, няма перабольшання ў словах мастака. Ён не драматызуе падзей. Яго занепакоенасць, абвостранасць успрыняцця нашай паслячарнобыльскай рэчаіснасці — небеспадстаўныя. М. Савіцкі сустракаўся з многімі «адтуль», з перасяленцамі, чуў іх расказы пра тое, што давялося перажыць, гутарыў з вучонымі, медыкамі.

—Нягледзячы на прынятыя ўрадам меры (а яны відавочна недастатковыя і запозненыя) — сітуацыя вельмі і вельмі трывожная, — дзеліцца сваімі разважаннямі мастак. — Варта толькі паглядзець на нядаўна апублікаваныя карты радыеактыўнай забруджанасці тэрыторыі рэспублікі. Цэзій, плутоній, стронцый... Выкід, як мы ведаем, уяўляў сабой аэразоль радыенукліднага саставу. Ён асядаў даволі павольна, а з-за розных па напрамку вятроў асеў плямамі. Вынікі трагічных падзей трохгадовай даўнасці ліквідаваць не ўдаецца. «Адмоўны ўплыў аварыі і яе вынікаў на тэрыторыі рэспублікі, — казаў у гутарцы з карэспандэнтам газеты «Правда» Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР М. Кавалёў, — не змяншаецца». Апошнія паглыбленыя даследаванні, па яго ж словах паказалі, што Беларусь забруджана радыеактыўнымі выпадзеннямі ў большай ступені, чым думалася напачатку.



Як не хвалявацца, калі ў зонах жор[illegible]га кантролю пражываюць [illegible]одзі, дзеці. У некаторых вёсках забруджанасць перавышае дапушчальныя нормы ў 8-10 разоў... Па сутнасці, усе мы заложнікі Чарнобыля, бо ўздзеянне і малых доз, як кажуць [illegible]оныя, надзвычай небяспе[illegible] для чалавека.

Доўга працаваў М. Савіцкі над карцінай «Відушчы». Яна даволі складаная для ўспрыняцця.

...Перад людскім натоўпам — павадыр, апрануты ў спецадзенне і з дазіметрам у руках. А ўверсе карціны, падобнай да фрэскі са святымі, словы са Свяшчэннага пісання» ... «І сказана ім, каб яны супакоіліся...»

Памятаю, як у год аварыі, у чэрвені, я паехала ў камандзіроўку на Гомельшчыну. Не прамінула Брагіна, дзе ў той час ішла актыўная дэзактывацыя вёсак, жыхары якіх, набраўшы поўныя вёдры калодзежнай вады, палівалі дахі сваіх хат, спрабуючы змыць радыяцыю. Яшчэ праз год, апынуўшыся ў тых самых мясцінах, і ўжо зразумеўшы ўсю меру небяспекі, я была проста ўражана тым спакоем, з якім ставіліся да свайго лёсу мясцовыя жыхары. «Гэта вы там у сталіцы нешта выдумляеце, а ў нас усё нармальна, добры ўраджай. У мясцовай газеце пішуць, што няма падстаў для хваляванняў. І вы, шаноўная, супакойцеся. Пачастуйцеся лепш нашымі яблычкамі».

Прыгадваю іншым разам смак тых яблык. Кіславата-салодкія. На выгляд такія прыгожыя: буйныя, чырвоныя. «... І сказана ім, каб яны супакоіліся...» І яны супакоіліся, так і не ўсведамляючы ўсяго жаху свайго становішча.



Дарэчы, менавіта гэты аспект трагедыі — неразуменне людзьмі альбо іх нежаданне зразумець усю меру небяспекі —адзін з найбольш важных для мастака. Псіхалогія чалавека — загадкавая рэч. Што ж такое псіхалогія народа, які зведаў ужо столькі пакут і цяпер зноў апынуўся над безданню, але маўчыць, сцяўшы зубы, не лямантуе, захоўвае сваю чалавечую годнасць, выконваючы па-ранейшаму ўсе свае абавязкі перад зямлёй і вадой, перад тымі, каго ён прыручыў, перад продкамі...

«Чарнобыльскі цыкл» Міхаіла Савіцкага яшчэ не бачылі. Цалкам уся серыя будзе вясной упершыню прадстаўлена ў залах Акадэміі мастацтваў у Маскве. «Спадзяюся гэтай работай прыцягнуць увагу самай шырокай грамадскасці да чарнобыльскіх праблем у нас у Беларусі, — кажа М. Савіцкі. — «Дзяржаўная праграма ліквідацыі вынікаў аварыі», як вядома, павінна яшчэ разглядацца ў Маскве, зацвярджацца. І толькі тады будуць выдзелены сродкі з агульнасаюзнага бюджэту. Нам не агараць адным такую бяду».

Напісаны дакумент эпохі. «Чарнобыльскі цыкл» заклікае нас усіх памятаць, што такое Апакаліпсіс і якое кволае, безабароннае стварэнне — Чалавек, адзіным прытулкам якога ў Сусвеце з'яўляецца яго Зямля.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: рэпрадукцыі з карцін «Чарнобыльскага цыкла» Міхаіла Савіцкага.**

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ




У выдавецтве «Навука і тэхніка» нядаўна выйшла ў свет кніга «Вянок беларускіх народных песень». У кароткай анатацыі паведамляецца, што ў выданне ўвайшлі лепшыя ўзоры традыцыйных і сучасных беларускіх песень амаль усіх жанраў, запісаныя на працягу 25 гадоў ва ўсіх абласцях Беларусі.

Зборнік гэты — вынік працы аднаго збіральніка, вядомага фалькларыста Уладзіміра Раговіча. Захоплены прыгажосцю народнай песні, складальнік зрабіў свае першыя запісы ў 1957 годзе ў час студэнцкай практыкі ў вёсцы Давыдаўка Гомельскага раёна ад удзельнікаў калгаснага хору. Работа галоўным дырыжорам Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы ўмацавала інтарэс да народнай творчасці, а парады нашага выдатнага фалькларыста дапамаглі У. Раговічу больш мэтанакіравана весці запісы, пастаянна ўдасканальваць іх методыку. Шматлікія паездкі па Беларусі далі магчымасць збіральніку сустрэцца з многімі таленавітымі выканаўцамі народных песень і іх знаўцамі. Асабліва многа запісаў было зроблена ў родных мясцінах, на Гомельшчыне, песні якой запалі ў сэрца з маленства і на ўсё жыццё. З цягам часу ў архіве У. Раговіча сабралася некалькі тысяч запісаў, сярод якіх — выдатныя ўзоры амаль усіх песенных жанраў, шырока вядомыя творы і рэдкія варыянты. Лепшыя з іх, як піша ў прадмове да зборніка прафесар К. Кабашнікаў, і склалі аснову зборніка, у які, акрамя матэрыялаў самога складальніка, увайшлі арыгінальныя, часам унікальныя запісы выкладчыкаў і студэнтаў БДУ і супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

Зборнік пабудаваны па традыцыйнай схеме, якая дае магчымасць улічыць функцыянальную прымеркаванасць песеннай творчасці да працоўнага сялянскага календара і сямейных абрадаў і свят, раскрыць багацце зместу песеннай лірыкі беларускага народа, выявіць асаблівасці вобразнай сістэмы і паэтыкі як абрадавых, так і пазаабрадавых песень.

Да змешчаных у кнізе тэкстаў дадзены ноты, уступныя артыкулы, каментарый і паказальнікі.

*З народных песень*

## ГО-ГО-ГО, КАЗА




«Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе ж ты бывала!»
— Ягадкі брала.
«Каму давала!»
— Жаўнерам, жаўнерам.
«Чым цябе білі!»
— Дубцамі, дубцамі.
«Якімі, якімі!»
— Бярозавымі.
«Як ты плакала!»
— Мі-мі-мі-мі-мі.
«Як смяялася!»
— Гі-гі-гі-гі-гі.
«Ох ты, козанька,
Ох ты, шэранька,
Не хадзі туды,
У тое сяльцо,
Бо у тым сяльцы,
Ліхія стральцы,
Яны радзяцца
Козаньку забіць,
Козаньку забіць,
Скуру аблупіць,
Скуру аблупіць,
Боцікі пашыць,
Боцікі-халявы
З боку дзіравы.
Хто казу вядзе,
Каляду бярэ:
І калядзіцу,
І каўбасіцу,
Мерачку аўса —
Песенька уся!»

## ФОТАВЫСТАЎКА «МІНСК—НОТЫНГЕМ»

**По ініцыятыве Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі ствараецца фотавыстаўка «Мінск — Нотынгем». Дзесяць дзён працавалі ў беларускай сталіцы фатографы Нотынгемскага цэнтра мастацтваў Клер Орын і Аджай Бхіка. І вось адбыўся візіт у адказ супрацоўнікаў БЕЛТА ў Вялікабрытанію. Самае вялікае ўражанне ў фотажурналістаў пакінула сустрэча з людзьмі розных слаёў грамадства і перакананняў, але аднолькава зацікаўленых Савецкай краінай, праблемамі, звязанымі з перабудовай.**

**Прапануем нашым чытачам некалькі работ з Вялікабрытаніі беларускіх фотакарэспандэнтаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Таўэрскі мост праз Тэмзу; у адным з паркаў; у чаканні пакупнікоў.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ і У. ШУБЫ.**







## НАВАГОДНІ ГУМАР





РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК,
ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97,
33-02-80, 33-03-15,
33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1472